ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №100 (4457) СЕРАДА, 14 снежня 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

КАНФЕРЭНЦЫІ

### РЭГІЯНАЛЬНЫ АСПЕКТ

Учора ў Мінску пачалася міжнародная канферэнцыя “Адукацыя, павышэнне кваліфікацыі і рэгіянальнае развіццё”.

Абмяркоўваюцца праблемы рэгіянальнага развіцця, метадалагізацыі адукацыі і павышэння кваліфікацыі. Абмен думкамі ідзе ў секцыях “Філасофія і метадалогія адукацыі”, “Праектаванне зместу адукацыі і павышэнне кваліфікацыі”, “Інавацыйныя тэхналогіі ў адукацыі”, “Кіраўніцкая дзейнасць у адукацыі”, “Псіхалогія ў адукацыі”.

Арганізатары канферэнцыі — Міністэрства адукацыі і навукі і Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.

Канферэнцыя завяршаецца заўтра.

### КАРЭКТЫВЫ Ў ДАРОЗЕ

**У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па праблемах стварэння нацыянальнай сістэмы падрыхтоўкі педагагічных кадраў для дашкольных устаноў. У яе рабоце ўдзельнічалі і прадстаўнікі замежжа.**

На аптымістычнай ноце прагучала выступленне начальніка ўпраўлення дашкольных устаноў Міністэрства адукацыі і навукі Т.М.Карасцялёвай. Яна адзначыла, што як бы ні складваліся абставіны ў эканоміцы, але калі ёсць дзеці ў краіне, сістэма дашкольнай адукацыі была, ёсць і будзе. Бацькі, як і раней, жадаюць аддаваць дзяцей у дашкольныя ўстановы не столькі з-за эканамічных цяжкасцяў, колькі дзеля таго, каб даць ім неабходнае развіццё. Зараз звыш 37 тысяч дзяцей знаходзяцца на ўліку для ўладкавання ў дашкольныя ўстановы.

Пачынаючы з гэтага года ў дашкольным выхаванні намеціліся новыя накірункі работы, якія звязаны з аказаннем дадатковых адукацыйных паслуг на даму — навучаннем маленькіх дзяцей замежнай мове, музыцы, спевам, харэаграфіі. Цяпер не застаюцца па-за ўвагай дзеці з ярка выражанымі схільнасцямі. Ёсць напрацоўкі па аказанні паслуг у падрыхтоўцы дзяцей да паступлення ў школу, якія не наведваюць дзіцячы сад. Выхавальнік можа прыходзіць да дзіцяці на дом як гувернант. Для выгод бацькоў пры садах ствараюцца групы з гібкім рэжымам работы (вячэрнія, выхаднога дня).

У краіне створана пяцьдзесят эксперыментальных пляцовак, дзе ідзе апрабацыя новых праграм па выхаванні дзіцяці, у тым ліку першай нацыянальнай праграмы. Калі раней у Рэспубліцы былі толькі дзяржаўныя дашкольныя ўстановы (маюцца на ўвазе бюджэтныя і ведамасныя), то цяпер узяты накірунак на пашырэнне відаў дашкольных устаноў — прыватныя, калектыўныя, змешаныя па формах уласнасці. Зыходзячы з гэтага ў падрыхтоўку педагогаў дашкольнага выхавання ўносяцца адпаведныя карэктывы, уводзяцца дадатковыя спецыяльнасці — замежная мова, практычная псіхалогія, выяўленчае мастацтва, музыка. Распрацоўваюцца новыя навучальныя планы і тэхналогіі, якія прадугледжваюць многапрофільную сістэму падрыхтоўкі.

Якім жа ў такім разе павінен быць педагог сённяшняга дня? У першую чаргу — канкурэнтаздольным, з неабмежаванымі магчымасцямі да самаразвіцця, самаадукацыі. Для гэтага неабходна як мага раней узбройваць будучага педагога псіхалагічнымі ведамі, уключаць яго ў самастойную пошукавую дзейнасць, вучыць супрацоўніцтву, узаемадзеянню з бацькамі на прынцыпах партнёрства. Толькі такі педагог зможа кіраваць развіццём дзіцяці, навучыць самастойнасці ў спасціжэнні навакольнага свету.

Удзельнікі канферэнцыі канстатавалі, што вартасць першай нацыянальнай праграмы заключаецца не толькі ў тым, што яна дазваляе стварыць атмасферу, у якой пануе дух сапраўднай Беларушчыны, але, галоўнае, у тым, што ствараецца асяроддзе, у якім дзіця развіваецца як унікум, як асоба. Аўтарам праграмы з’яўляецца творчы калектыў “Пралеска” пад кіраўніцтвам прафесара Л.А.Панько. Ажыццявіць ідэі праграмы здольны кожны творчы педагог. Пошук шляхоў яго падрыхтоўкі і стаў мэтай канферэнцыі, якую ініцыіравалі рэктар педуніверсітэта акадэмік Л.М.Ціханаў і загадчык кафедры педагогікі А.А.Грымаць.

Матэрыялы канферэнцыі знайшлі адлюстраванне ў навуковым зборніку, які адрасаваны студэнтам, аспірантам, выкладчыкам, практычным работнікам.

(Наш кар).

КАНВЕРСІЯ І АДУКАЦЫЯ

### НОВАЯ НОТА “КАЛІБРА”

**Карэспандэнт “Настаўніцкай газеты” пабываў на адным з канверсійных прадпрыемстваў Мінска — у аб’яднанні “Калібр”. Адначасова з выпускам асноўнай прадукцыі тут удзяляюць увагу і таварам народнага спажывання. Пра некаторыя з іх, якія прадстаўляюць цікавасць для дашкольных і навучальных устаноў, расказвае начальнік СКБ Уладзімір Гутманавіч Кац.**

— Дзіцячая шматфункцыянальная электрамузычная цацка “Нота” ўяўляе сабой электрамузычны інструмент, прызначаны для развіцця і ўдасканалення музычных здольнасцяў дзяцей дашкольнага ўзросту, якія любяць музыку і жадаюць пачаць з самага простага — вывучэння нотнай граматы і выканання нескладаных мелодый дзіцячых песень.

Цацка “Нота” атрымала станоўчую рэкамендацыю мастацка-тэхнічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і навукі. Станоўча адзываюцца і загадчыкі дзіцячых садоў, выкладчыкі музыкі ў агульнаадукацыйных і музычных школах. Невысокі кошт у параўнанні з аналагічнымі замежнымі ўзорамі пры вялікім выбары функцый робіць яе прывабнай для шырокага выкарыстання ў якасці дапаможнага інструмента пры навучанні.

Прадпрыемства вядзе таксама работы па падрыхтоўцы да серыйнай вытворчасці вырабаў прагрэсіўнай святлатэхнікі для школ і дашкольных устаноў. Гэта галагенныя свяцільнікі для падсветкі класных дошак і навучальных дапаможнікаў, галагенныя і люмінесцэнтныя свяцільнікі для мясцовага асвятлення ў кабінетах працы і дамаводства, электронныя пускарэгулюючыя апараты для ўстаноўкі ў люмінесцэнтныя свяцільнікі агульнага асвятлення школьных класаў і гульневых пакояў дашкольных устаноў.

Прымяненне прагрэсіўнай святлатэхнікі павышае якасць асвятлення, зніжае стамляльнасць і, як вынік, садзейнічае захаванню зроку, павышэнню працаздольнасці, паляпшэнню засваення навучальнага матэрыялу. Пры гэтым дазваляе сэканоміць да 20 працэнтаў электраэнергіі.

Міхась АНІСЕНКА.

ІНТЭРВ’Ю З НАГОДЫ

## Уладзімір МАЦКЕВІЧ: РАЗБУРЫЦЬ ЭФЕКТ “ГОЛАГА КАРАЛЯ”

**Агенцтва гуманітарных тэхналогій падрыхтавала дакумент аб стане спраў у сферы адукацыі краіны, які называецца “Зялёны сшытак”. Ён накіраваны Прэзідэнту, у Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, міністру адукацыі і навукі, старшыні БРК галіновага прафсаюза, старшыні незалежнага прафсаюза настаўнікаў, старшыні Рады дырэктараў школ. Пра змест “Зялёнага сшытка” наш карэспандэнт гутарыць з кіраўніком Агенцтва гуманітарных тэхналогій метадолагам У.У.Мацкевічам.**



**— Уладзімір Уладзіміравіч, як узнікла задума “Зялёнага сшытка”?**

— Мы меркавалі зрабіць гэты дакумент у некалькі іншым варыянце. Агенцтва гуманітарных тэхналогій хацела першапачаткова аб’яднаць навуковую педагагічную грамадскасць для падрыхтоўкі даклада аб стане спраў у адукацыйнай сістэме краіны, які быў бы прад’яўлены Прэзідэнту пры ўступленні на пасаду і апублікаваны. Першым крокам да такога даклада стала падрыхтоўка Мемарандума навуковай канферэнцыі ў снежні 1993 года. У рамках гэтай задумы меркаваліся сустрэчы работнікаў і кіраўнікоў адукацыі з усімі кандыдатамі ў прэзідэнты. Аднак першая ж спроба рэалізаваць ідэю была спынена “у лепшых традыцыях” застойных гадоў: міністэрскія чыноўнікі пільна выконвалі распараджэнне Кебіча захоўваць адукацыйнае ведамства “па-за палітыкай”, каб хоць неяк утрымаць сітуацыю на карысць “адзінага, самага дастойнага” кандыдата. Што з гэтага атрымалася — вядома. Зрэшты, шчыра кажучы, на гэты конт я і не меў ніякіх ілюзій. Пасля азнаямлення летам і восенню 1993 года са структурай і функцыянаваннем кіравання сістэмай адукацыі Беларусі я пераканаўся, што ні міністэрства, ні кабінет Кебіча ўтрымаць сітуацыю проста не здольны. Пасля ўпамянутай канферэнцыі на сустрэчы з міністрам В.Гайсёнкам мы канстатавалі поўнае разуменне становішча спраў у сістэме адукацыі, але поўнасцю разышліся ва ўяўленні аб тым, што ў такой сітуацыі рабіць. Наколькі я магу меркаваць, у міністэрстве лічылі непатрэбным і немагчымым што-небудзь мяняць, спасылаючыся на палітычныя абставіны, “менталітэт” і г.д.

К гэтаму часу ў “Настаўніцкай газеце” быў апублікаваны шэраг матэрыялаў ініцыятыўнай групы па распрацоўцы стандартаў, што дало мне магчымасць абмяркоўваць праблемы адукацыі са старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета Н.Гілевічам. Разуменне і тут было дасягнута, але працягу ў дзейнасці, на жаль, не знайшло.

Такім чынам, пасля “разведкі” на самых высокіх узроўнях дзяржаўнай машыны я зразумеў, што для асэнсаваных дзеянняў у сферы адукацыі трэба мяняць урад і палітычны рэжым у Беларусі...

**— І вось змяніўся ўрад, і Вы вырашылі давесці да вышэйшых эшалонаў улады і кіраўнікоў грамадскіх аб’яднанняў адукацыйнай сістэмы свой погляд на становішча спраў у адукацыі...**

— Не толькі мой асабісты, а і шэрагу кваліфікаваных спецыялістаў, у тым ліку членаў і экспертаў Агенцтва гуманітарных тэхналогій. Але змест сшытка не можа быць зведзены толькі да меркаванняў групы людзей — з меркаваннямі можна і не лічыцца. Неабходны экспертныя заключэнні. Аднак заказ на афіцыйную экспертызу ад Міністэрства адукацыі і навукі мы не атрымалі. Таму Агенцтва працуе на самазаказе і самафінансаванні. Для таго, каб такі самазаказ мог легітымізаваць экспертызу, нам патрэбна была прадстаўнічая і працяглая сустрэча з афіцыйнымі структурамі адукацыйнага ведамства і падпарадкаванымі яму інстытутамі, на якой эксперты маглі б задаць цікавячыя іх пытанні і атрымаць (або не атрымаць) адказы ад асоб, якія абавязаны гэтыя адказы мець. Такая сустрэча ў форме кіраўніцкай сесіі-семінара “Развіццё сістэмы школьнай адукацыі: стан і перспектывы” адбылася 29 кастрычніка гэтага года. Прыняць удзел у сустрэчы былі запрошаны прадстаўнікі розных сацыяльна-дзейнасных інстытутаў: Міністэрства адукацыі і навукі, мясцовых органаў і устаноў адукацыі, сістэмы павышэння кваліфікацыі і навукі, сродкаў масавай інфармацыі. Работа сесіі-семінара праходзіла на агульных пасяджэннях і ў групах па тэмах: “Аналіз сучаснага стану сістэмы школьнай адукацыі”, “Асноўныя праблемы развіцця сучаснай сістэмы адукацыі”, “Вызначэнне рамак і арыенціраў канцэпцыі развіцця школьнай адукацыі”.

Абмяркоўваліся інвестыцыйна-фінансавыя, прававыя, структурна-функцыянальныя, канцэптуальна-праектныя аспекты кіравання адукацыяй, а таксама аспекты кантролю і кіравання якасцю адукацыі (крытэрыі адукаванасці і падрыхтоўкі, стандарты). Нам было відавочна, што эфектыўнасць семінара будзе вызначацца тым, наколькі ўдасца наладзіць перасячэнне і камплексаванне дзвюх, як мінімум, дзейнасных праграм: праграмы рэформы адукацыі і праграмы культурнай палітыкі. Вытокі праграмы рэформы адукацыі, як вядома, — у 1984 годзе, а ўмовы яе рэалізацыі памяняліся ўжо некалькі разоў. Нават краіны, у якой пачыналася рэформа, ужо няма, а мы працягваем гэту рэформу ў другой краіне. Праграмы самой таксама няма, а ёсць толькі віртуальныя рэканструкцыі гэтай праграмы, якія, да таго ж, нікім не суб’ектаваны. Арыенціры і гарызонты гэтай праграмы сёння знаходзяцца ў руках В.І. Стражава, і я ўдзячны яму за запрашэнне ўдзельнічаць у цяперашнім этапе рэалізацыі рэформы адукацыі. Што тычыцца праграмы культурнай палітыкі, то асновы яе закладваліся ў 1952—58 гадах. Гэта міжнародная праграма ў Беларусі цяпер ажыццяўляецца Агенцтвам гуманітарных тэхналогій, прадзюсерам якога я з’яўляюся.

Наладзіць узаемаўзбагачаючае ўзаемадзеянне гэтых дзвюх праграм — значыць вырашыць найважнейшую праблему і аказацца на пярэднім краі сучаснага праграмна-метадалагічнага мыслення. Менавіта на гэтым я зрабіў акцэнт у першай частцы свайго даклада на семінары.

Паколькі прысутныя прадстаўлялі не толькі саміх сябе, а і розныя сацыяльна-дзейнасныя інстытуты, развіццё якіх вызначаецца не толькі нормай дзейнасці і традыцыямі, а і тым, як бачаць гэта развіццё “першыя асобы”, то нам было цікава ведаць, наколькі скамплексавана іх бачанне перспектыў развіцця ўзначальваемых імі інстытутаў з праграмамі, пра якія вялася размова.

**— І на які вынік сумеснай працы Вы арыентавалі такую прадстаўнічую аўдыторыю?**

— Канцэпцыя рэформы адукацыі ёсць закончаны прадукт, альбо выраб (як прынята гаварыць там, дзе праектаванне і канцэптуалізацыя ажыццяўляюцца на культурных нормах). А любы прадукт, любы выраб павернуты, напрыклад, да праекціроўшчыка адным бокам, да вытворцы — другім, да пакупніка — трэцім і г.д. Таму для нас зараз важныя некалькі “слаёў” прадукта работы, якая толькі пачынаецца: фальшпанэль, альбо ўпакоўка, у якой прадукт прад’яўляецца вонкавым структурам (Прэзідэнту, Вярхоўнаму Савету, грамадскасці); рабочыя і функцыянальныя зоны, прад’яўляемыя непасрэднаму карыстальніку (настаўніку, вучню і прафесіяналам ад педагогікі); механізм або змест вырабу, якія могуць быць прад’яўлены стваральнікам аналагаў, “рамонтнікам”, упраўленцам і г.д; прынцыпы функцыянавання вырабу (гэта для зусім вузкіх спецыялістаў).

А пакуль мы маем у наяўнасці толькі фальшпанэль. Усю начынку нам прадстаіць распрацаваць і пасля зрабіць у натуры.

**— Арганізатары сесіі-семінара спадзяваліся распрацаваць ці хаця б намеціць такую начынку... за адзін дзень?**

— Ні ў якім разе. На гэта патрэбна многа часу, і я сказаў удзельнікам сустрэчы, што наша задача — сфармуляваць тэхнічнае заданне на гэту работу, патрабаванні заказчыка да выканаўцы, а таксама ўзаемныя абавязкі бакоў. Так што мэта семінара была даволі рэалістычнай.

**— Калі я Вас правільна зразумеў, то ўдзельнікі арганізацыйна-дзейснай гульні павінны былі стаць калектыўным суб’ектам аргкіравання і даследавання, каб паставіць задачы самім жа сабе з пазіцыі, скажам, кіраўніка міністэрства, прафесара, настаўніка, бухгалтара і г.д.?**

— Менавіта так. А дзеля гэтага і рэалізацыі ўсяго вышэй сказанага патрэбна было зразумець патрабаванне да самаарганізацыі.

**— Таму і падрыхтавалі каманду гульнетэхнікаў?**

— Асноўным стрыжнем, на якім меркавалася арганізаваць абмеркаванне, быў дзейнасны падыход.

Гульнетэхнікі не ўмешваліся ў тэму размовы, а толькі накіроўвалі сваімі пытаннямі інтэлектуальны працэс.

**— І ўсё ж склалася ўражанне, што не ўсе ўдзельнікі размовы зразумелі функцыі гульнетэхнікаў, бо звычайна такія прадстаўнічыя сустрэчы ў нас праводзяцца па іншай схеме: заслухоўваецца даклад, некалькі дакладаў, а пасля — так званыя спрэчкі... Можа таму шмат часу пайшло на “ўваходжанне” ў дзейнасць, прывыканне да калектыўнай разумовай працы. А гэта не магло не паўплываць і на яе выніковасць. Да таго ж, наколькі мне вядома, шэраг, скажам так, запрошаных на семінар ведалі толькі агульны тэматычны накірунак размовы — значыць, ужо і псіхалагічна мелі “ўстаноўку” на “агульную” размову. Дык ці варта папракаць удзельнікаў семінара, што яны зусім нерэфлексіўна аднесліся да паняццяў “кіраванне” і “адукацыя”, якімі былі акрэслены рамкі аналізу?**

— Два тыдні пайшло на падрыхтоўку да мерапрыемства і месяц — на аналіз вынікаў. Я не думаю, што даволі сціплая прадуктыўнасць сесіі-семінара абумоўлена арганізацыйнымі пралікамі. Вывады для Агенцтва гуманітарных тэхналогій не з’яўляюцца нечаканымі.

**— Дзеля чаго ж тады Агенцтву патрэбна было праводзіць гэту сустрэчу, расходаваць на яе сродкі?**

— Я ўжо казаў у пачатку нашай гутаркі, што каб самазаказ на вельмі неабходную зараз працу — аналіз сітуацыі ў сферы адукацыі, выяўленне першачарговых праблем і пастаноўка задач, праектаванне працаздольных структур рэалізацыі рэформы — мог легітымізаваць нашу экспертызу, нам патрэбна была “даведка”. Новы міністр адукацыі і навукі прадаставіў Агенцтву магчымасць такую “даведку” — дакументальнае пацвярджэнне экспертных заключэнняў — атрымаць. Становішча сённяшняга міністра адрозніваецца ад становішча яго папярэднікаў: яго рэальна спытаюць за рэформы. Таму В.Стражаў зацікаўлены ведаць рэальнасць спраў у адукацыі.

**— Я не думаю, што гэту рэальнасць спраў не ведалі В.Гайсёнак і М.Дзямчук...**

— Я таксама не думаю так. “Зялёны сшытак”, які, мы спадзяемся, праз пэўны час увасобіцца ў “Белую кнігу”, павінен разбурыць эфект “голага караля”. Напомню, што гэты эфект сфармуляваны так: хто не бачыць неіснуючай вопраткі караля — той альбо дурань, альбо знаходзіцца не на сваім месцы. Папярэднікі В.Стражава таксама ведалі ўсё. Чаму ж яны не гаварылі, што “кароль голы”? Адказ просты: той, хто першы скажа гэта, страціць пасаду. Так ужо ў нас павялося... Таму першым заўсёды гаворыць эксперт, якому няма чаго траціць (дзіця, пенсіянер, іншаземец або “прыроўненыя да іх асобы”). Пасля ўсе могуць з гэтым згадзіцца, як ужо неаднойчы было.

**— Значыць, Вы, “іншаземец”, прыехалі у Беларусь, каб сказаць нам, што “кароль голы”?**

— Што да “іншаземца”, то я такім не з’яўляюся. Нарадзіўся і нейкі час вучыўся ў школе ў горадзе Гродна. Пасля лёс закінуў маіх бацькоў у Сібір. У Расіі я і пачаў займацца метадалогіяй. Пасля пераехаў у Рыгу. І вось ужо больш года працую ў Мінску ў Агенцтве гуманітарных тэхналогій. Сустракаюся з педагогамі, вучнямі, студэнтамі, вучонымі, кіраўнікамі органаў адукацыі, палітыкамі, дзелавымі людзьмі. Выступаю з артыкуламі ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і ў “Настаўніцкай газеце”. Вяду метадалагічныя семінары. Мне, як і маім калегам, не ўсё роўна, што адбываецца на нашай беларускай зямлі. Спадзяюся, што гуманітарныя ідэі Агенцтва гуманітарных тэхналогій будуць карысныя і для сістэмы адукацыі. Мы маглі б паспрыяць “запуску” сур’ёзных работ па праектаванні і праграмаванні.

**— Якіх іменна?**

— Стандартаў адукацыі; складанні план-карты навуковых даследаванняў у галіне адукацыі ў Беларусі; падрыхтоўцы метадолагаў і гульнетэхнікаў; змяненні парадыгмы адукацыі і выхавання; падрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі педагогаў. Ёсць шмат іншых участкаў, на якіх Агенцтва гуманітарных тэхналогій здольна накапліваць і ўзбагачаць інтэлектуальны патэнцыял краіны.

**— Аднак вернемся зноў да “Зялёнага сшытка”. Высновы, зробленыя ў ім, песімістычныя: абгрунтавання неабходнасці рэформы школьнай адукацыі ў Беларусі не існуе, канцэпцыі рэформы няма, сістэма адукацыі і далей будзе разбурацца: і маральна, і змястоўна, і матэрыяльна, прадоўжыцца агонія бясплоднай і ўстарэлай педагагічнай навукі і г.д., і да т.п... Ці не залішне рэзка, калі не сказаць - жорстка?**

— Але ж пра гэта гаварылі ўсе ўдзельнікі сесіі-семінара. Толькі ў мяккай форме і без акцэнтавання. “Имеющий уши да слышит”.

**— А вы не дапускаеце думкі, што Міністэрства адукацыі і навукі і іншыя ўдзельнікі сесіі-семінара прыйшлі да іншых вывадаў?**

— Гэта было б добра і цікава. Але каб пакінуць у чыстаце грамадскі фокус экспертызы, мы спецыяльна не кантактавалі з іншымі афіцыйнымі ўдзельнікамі сустрэчы да абнародавання “Зялёнага сшытка”. Мы ўважліва паставімся да ўсіх меркаванняў і з задавальненнем адмовімся ад найбольш рэзкіх высноў, да якіх прыйшлі, калі нам аргументавана дакажуць, што ўсё не так, як мы гэта ўбачылі.

## ПЫТАННЕ — АДКАЗ

**Жыхар Крычава Анатоль Караленка працуе ў школе па сумяшчальніцтве рабочым па рамонту і абслугоўванні будынкаў. Ён цікавіцца, ці прадугледжаны для рабочых-сумяшчальнікаў аплачваемы адпачынак, а таксама якая працягласць адпачынку ў наступны час для тэхнічных работнікаў школы.**

**На пытанне адказвае юрыст Уладзімір Іосіфавіч ДЫДЫШКА:**

— Рабочыя-сумяшчальнікі маюць права на аплачваемы адпачынак на сумешчанай рабоце, які павінен прадастаўляцца адначасова з адпачынкам на асноўнай рабоце.

Працягласць штогадовага адпачынку прыбіральшчыцы службовых памяшканняў школы складае 15 рабочых дзён.

* * *

**Настаўнік фізкультуры Кашалёўскай сярэдняй школы Буда-Кашалёўскага раёна Васіль Губанаў звярнуўся ў рэдакцыю з наступным пытаннем. Апошнія гады ён працаваў на няпоўную стаўку, а атрымліваў зарплату за 18 гадзін.**

**Сёлета, як піша ён, завуч школы паставіла яму ў абавязак весці ўрокі фізкультуры ў чацвёртым класе. Гэта складана, таму што школа—старадаўняй будоўлі, спартыўнай залы няма. Васіль Тарасавіч пытаецца, ці маюць рацыю дзеянні адміністрацыі.**

**Адказ дае загадчык аддзела эканамічнай абароны Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Уладзіміраўна ГНЯЗДЗІЛАВА:**

— У адпаведнасці з пунктамі 96, 98 Інструкцыі аб парадку налічэння заработнай платы работнікам адукацыі, адміністрацыя не толькі мае права, а нават абавязана дагрузіць Вас да поўнай стаўкі, калі ў школе ёсць гадзіны фізкультуры ў 2—11 класах.

* * *

**У рэдакцыю звярнулася пенсіянерка з Бабруйска, былая выхавальніца групы прадоўжанага дня школы № 8 Л.З.Скітовіч. Па дасягненні пенсійнага ўзросту з ёю быў заключаны працоўны дагавор.**

**31 мая 1994 года ён быў скасаваны, і замест чарговага адпачынку Людміле Захараўне была выдадзена грашовая кампенсацыя за 9 месяцаў. Аўтар пісьма пытаецца, ці правільна паступіла адміністрацыя школы ў гэтым выпадку.**

**На пісьмо адказвае юрыст Уладзімір Іосіфавіч Дыдышка:**

— Паведамляем, што ў 1993 годзе наймальнік меў права ў адпаведнасці з артыкулам 18 КЗАП заключыць з работнікам, які дасягнуў пенсійнага ўзросту, па згодзе абодвух бакоў, тэрміновы працоўны дагавор (да двух гадоў). Па сканчэнні тэрміну працоўнага дагавора работнік мог быць звольнены са спасылкай па п.2 артыкула 29 КЗАП РБ з выплатай кампенсацыі за нявыкарыстаны адпачынак.

Таму ў гэтым выпадку парушэння заканадаўства няма.

У цяперашні час гэтая норма заканадаўства не дзейнічае (адменена рашэннем Канстытуцыйнага суда).

Падрыхтавала да друку
Ала ШАЎЦОВА.

ДУМЫ НАСТАЎНІКА

## Рабы жывуць так, як і належыць жыць рабам

У сістэме каштоўнасцяў любой цывілізаванай краіны вызначаецца, як вышэйшая каштоўнасць, перш за ўсё патрыятызм. Родная дзяржава разглядаецца як вышэйшая каштоўнасць, а доўг грамадзяніна заключаецца ў тым, каб служыць дзяржаве ўсімі сіламі, не шкадуючы свайго жыцця. Для таго, каб адпавядаць гэтым каштоўнасцям, грамадзянін павінен валодаць мужнасцю, сумленнасцю, вернасцю, годнасцю, умеранасцю ў жыцці, здольнасцю падпарадкоўвацца жалезнай дысцыпліне на вайне і ўладзе закона і звычаям продкаў у мірны час.

Калі крызіс закранае сістэму каштоўнасцяў, дзяржава пачынае гінуць. Карупцыя, злоўжыванні, палітычныя інтрыгі, нястрымная пагоня за нажывай, гвалт, кар’ерызм з апорай на сямейныя сувязі, дэспатызм, даносы, бязмежныя рабалепства і крывадушнасць — усё гэта пачынае паглынаць краіну і ўсё гэта — следства адсутнасці патрыятызму.

На чым трымаецца патрыятызм? На прыватнай уласнасці, на павазе да цяжкай працы земляроба і настаўніка, на гістарычнай памяці і мове, любові да маці, роднай зямлі, культуры. Чалавек павінен быць адначасова і ўласнікам, і абаронцам сваёй і грамадскай уласнасці. Грамадзянін з годнасцю будзе несці званне салдата толькі тады, калі ведае, што і дзяржава яго абароніць. Калі ваенная служба становіцца цяжкай абузай, то гэта азначае, што хворае грамадства, хутчэй, мёртвае, чым жывое.

“Новыя беларусы” з ліку прэзідэнцкай каманды кінуліся лячыць хворую эканоміку: будзе хлеб з каўбасой — будзе і ўсё астатняе. Не, шаноўныя, пакуль хворая душа народа, пакуль у нас не ў пашане праца земляроба і настаўніка, пакуль у нас жабруюць старыя і дзеці выхоўваюцца ў сіроцкіх дамах, пакуль салдаты збягаюць з арміі, пакуль не створаны ўмовы для сумленнай працы і чалавек не мае ўласнасці, не будзе ў нас ні хлеба, ні каўбасы.

Даррау казаў: “Гісторыя паўтараецца, гэта адзін з яе недахопаў”. “Той, хто не помніць свайго мінулага, асуджаны на тое, каб перажыць яго зноў” — гэта ўжо словы другога вялікага філосафа, Сантаяны.

Мы паўтараем многія памылкі народаў, якія прывялі да гібелі іх краін. Яны вельмі добра апісаны ў гісторыі, але, на жаль, нічаму не вучаць нашых, спадзяюся, адукаваных дзяржаўных мужоў.

Я прывяду класічны прыклад з гісторыі магутнай ва ўсіх адносінах старажытнай Грэцыі, нічога не падрабляючы, а вы самі ацаніце — наколькі яна стасуецца з сучаснай гісторыяй Беларусі. Вось як гісторыкі паказвалі прычыны гібелі адной з самых цывілізаваных краін старажытнасці (скарочана). Рамеснікам і земляробам стала ўсё цяжэй канкурыраваць з таннай рабскай працай. Яны ператварыліся ў люмпен-пралетарыяў, якія жывуць выпадковым заробкам і на падачкі дзяржавы. Агідныя адносіны да вытворчай працы, як да рабскага занятку, атрымалі шырокае распаўсюджанне менавіта ў гэты час; крызіс выявіўся ў зменах у зямельных адносінах — многія грамадзяне не валодалі зямлёй. Заможныя людзі пачалі ўкладваць грошы не ў зямлю і вытворчасць, а ў гандаль і растаўшчычаства; складваўся пласт плутакратаў (магутных сваім багаццем), якія сканцэнтравалі ў сваіх руках асноўныя багацці; у мінулым апорай дзяржавы былі грамадзяне сярэдняга дастатку; вялікая колькасць выбарных дзяржаўных пасад пачала аплочвацца дзяржавай, грамадзянам пачалі аплочваць нават наведванне народнага сходу. За гэтым хавалася разарэнне грамадзян і ператварэнне дзяржаўных пасад у пастаянную крыніцу даходу паўжабруючых грамадзян, якіх падкормлівалі ў сваіх інтарэсах плутакраты. Войска страціла сваю ролю, сярэдні клас грамадзян знікаў, а бедныя не мелі жадання змагацца за багацці і інтарэсы багатых. Наёмніцтва ў войску падрывала сувязь паміж паняццем “грамадзянін” і “воін”, паміж войскам і народам. Абрабаванае насельніцтва страціла плацежаздольнасць і нічога не купляла — унутраны рынак быў невялікі; правячая частка грамадства згаджалася прыняць уладу любой дзяржавы, якая б абараніла іх багацці і забяспечыла магчымасць эксплуатацыі рабоў і мясцовага насельніцтва.

Сапраўды, сённяшняму ўласніку вельмі цяжка канкурыраваць з “рабскай” працай рабочых на дзяржаўных прадпрыемствах, якія атрымліваюць 5 — 8 капеек ад заробленага рубля. Уласнік-рамеснік не зможа купіць сыравіну і энергію. Але ў нас ёсць мясцовая сыравіна, і можна было б узнавіць старыя традыцыйныя вытворчасці, ды дзяржава стварыла такія ўмовы для развіцця асабістай уласнасці, што чалавеку лепш хадзіць на працу на завод 2—3 дні ў тыдзень, а астатні час гандляваць за мяжой. Нават кваліфікаваны рабочы, настаўнік, інжынер ператвараецца ў люмпен-пралетарыя, а гэта пагражае не толькі эканамічным інтарэсам дзяржавы, але і такой кволай яшчэ дэмакратыі на Беларусі. І выбары пацвердзілі гэта.

Моладзь не паважае вытворчую працу. Грамадства ўжо стварыла магутны пласт сучаснай моладзі — “скураных хлопчыкаў”, якія адчулі пах лёгкіх грошай і якіх ужо ніякім рублём не заахвоціш падысці да станка. Яны з агіднасцю глядзяць на рабочыя спецыяльнасці і тым больш — на хлебаробскую працу.

А якая сувязь паміж дрэнным грамадскім побытам і дрэннай працай на вытворчасці? На гэтае пытанне не вельмі цяжка адказаць. Раніцай вы выйшлі са сваёй “крэпасці” - дома, і першыя ж крокі адаб’юць у вас ахвоту да працы: смецце на калідорах, выбітае шкло на лесвічных пляцоўках, экспрэс-туалет-прыбіральня на пляцоўцы ліфта і запляваныя сцены самога ліфта, выбітыя дзверы ў пад’ездзе... Хопіць? Далей не пойдзем?

У чалавека з’явілася натуральная жаданне пабудаваць свой дом на зямлі. Ён бачыць, што ў грамадскім “шпакоўніку” ніколі не будзе парадку, а дзяржава б’е па гэтым жаданні

(Працяг на 2-й стар.)

